УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)
Л 97

Ляшчун М. М.

Белая завея: вершы, паэма/ Мікола Ляшчун. – Мінск: Адукацыя і выхаванне, 2009 – 128 с.

ISBN 978-985-471-334-2

“Белая завея” адкрвае нутраны свет паэта Міколы Лешчуна. Гэты філасофскі роздум пра найважнешыя каштоўнасці: маці, родную мову і родную зямлю. Паэт імкнецца паказаць чытачу, дзеля чаго ён прыйшоў у гэты свет, як ён шукае сваё месца і ў прасторы, і ў часе. Паэт-змагар, паэт-грамадзянін – вось асноўны лейтматыў ягоных радкоў.
У зборнік уключаны найлепшыя паэтычныя творы Міколы Лешчуна апошніх гадоў.

УДК 821.161.3-1
ББК 84 (4 Беи)

ISBN 978-985-471-334-2

****

*Не пішу для хвалы і забавы*
*І чытаю вам верш пры нагодзе.*
*Хіба толькі паэт, хто ля славы.*
*У каго часта кніжкі выходзяць?*

*Я лічу за прызнанне служэнне*
*Верай-праўдай капрызлівай Музе.*
*Яна дорыць ад скрухі збавенне*
*І дарадзіць у грэшнай спакусе.*

*Радавы паэтычнае нівы —*
*Я шукаю у вершах прызвання.*
*Я да славы чужой не раўнівы,*
*Да натхнення чужога і звання.*

*Хоць ганяюць душу ў рэзервацыю,*
*Я пісацьму да самай магілы,*
*Услаўляць буду мову і нацыю*
*Колькі таленту маю і сілы.*

## Даверыцца адзіноце

У апошнім зборніку вершаў Міколы Лешчуна «**Палескія сны**» мне адразу ж запомніліся радкі:

Сярод паэтаў — я настаўнік,
Сярод настаўнікаў — паэт,
І незалежна ад абставін
Па-свойму успрымаю свет...

Па-свойму ўспрымае свет кожны чалавек, але не кожны ўспрымае свет па-свойму незалежна ад абставін.

Гэта права даецца сапраўдным!

І вось менавіта тым, што ён — сапраўдны, што здатны адсунуць ад сябе гару абставін, Мікола Ляшчун і цікавы мне.

Сябе ён настройвае на тое, што павінен пісаць і пісаць па-беларуску, бо толькі беларуская мова найглыбей раскрывае душу перад нябеснымі і зямнымі таямніцамі.

Маючы ў сэрцы родную мову, ён дасканала валодае нямецкай і англійскай.

Мяркую, што наша нацыянальная будучыня будзе ўсё ж стварацца паводле лінгвістычнай філасофіі такіх людзей, як Мікола Ляшчун.

Гэта значыць, запануе суладдзе, паводле якога беларусы будуць і пісаць, і размаўляць па-беларуску, і пры гэтым будуць ведаць яшчэ і некалькі замежных моў...

Паэт перажыў страту роднай вёскі, якая апынулася ў чарнобыльскай зоне; зведаў, як і ўся яго сям'я, згрызоты перасялення.

Але Чарнобыль не стаў у яго вершах літаратурным Чарнобылем, бо вершы гэтыя з непрыдуманага болю.

У гэтым болю прачытваецца найперш тэма сям'і, незабыўныя постаці бацькі і маці, а таксама ж родных бабуль.

Дарэчы, бабуля па бацьку Аляксандра паўплывала на будучага паэта асаблівым сваім уменнем прыгожа і дасціпна жартаваць, а бабуля па маці Наталля перадала яму любоў да Бога і народнай мудрасці...

Змалку побач былі маральныя людзі, таму на ўсё жыццё засталося разуменне, што самыя лепшыя фарбы — фарбы маленства, і таму, калі бывае тужліва, то заўсёды і ўспамінаюцца гэтыя фарбы.

Як гэта ўсё нагадвае прозу Янкі Брыля!..

Любімы колер аўтара гэтай кнігі — зялёны, а блізкія мелодыі тыя, якія можна найграць на гармоніку.

Позняй вясной, калі ў прыродзе выяўна ўжо бачыцца лета, паэт раптам чуе тое гучанне, якое тоеснае самой творчасці.

І лепш тады апынуцца ў лесе, даверыцца адзіноце; адзінота ж — самы чаканы душэўны стан.

Па сваіх паводзінах, па манеры размаўляць, а перш за ўсё па духу Мікола Ляшчун — лясны вясковец, таму зразумела чаму сціпласць з'яўляецца яго ***любым*** словам.

Ён ствaральнік і прапагандыст беларускай літаратуры; яго душа жыве здабыткамі прозы Караткевіча і паэзіі Пімена Панчанкі.

А вучням сваім перш за ўсё адкрывае «перуновыя словы Купалы» — дарэчы, настаўнік Мікалай Міхайлавіч Ляшчун працуе ў Бяларуцкай школе Лагойскага раёна, у тых самых Бяларучах, у якіх некалі вучыўся ў народным вучылішчы Ясь Луцэвіч — будучы Янка Купала...

«**Белая завея**» — кніга чулая і мужная; заўважу: спалучэнне чуласці і мужнасці не такое ўжо й частае ў нашай паэзіі.

**Леанід Дранько-Майсюк**
21 верасня 2008

* * *

Дайце паэту дажыць да світання,
Сноў не трывожце дзіцячых яго,
Дзе спачывае надзеяў прыстанне
І дзе не бачна пустых берагоў.

Хай акунаецца ў мора бязмежжа,
Дзе крыўдаслоўна ніхто не гукне,
Дзе ні ад кога душа не залежыць
І ратавальна адчай абміне.

Што да таго, калі творцу пакутна?!
Што каму тыя натхнення радкі?!
Штосьці паэтаў наогул нячутна,
Штось, як раней, не стае талакі...

Хай загучыць там гаючае слова,
Дзе дабрыня змізарнела зусім,
Дзе не вісіць над парогам падкова
І спаганяюць за ўсмешку калым.

А як наблізіцца час развітання,
Гучных не трэба паэту прамоў,
Бо ён не проста дажыў да світання –
Ён не пакінуў пустых берагоў
*8 жніўня 2009*

***

Я стаў баяцца вышыні.
Я стаў баяцца цішыні,
Баюся хлуснай чысціні,
Згарэць у пеклавым агні...

Я стаў баяцца адзіноты,
Няшчырай ласкі і пяшчоты.
Я стаў баяцца вельмі Бога,
А больш за ўсё себе самога...

## Пра рыфмы

Словы, рыфмы...
Словы, рыфмы...
Што і ў лад,
Што й неўпапад —
Натыкаецца на рыфы
Паэтычны далягляд.

Так яно, відаць, і трэба —
Покуль лоб не разаб'еш,
На Парнас, як і на неба,
Без пакут не пападзеш..

Вось і мучайся, паэта!
Мэта згублена глыбока.
Часам сніцца тая мэта
Вершам, што як ясны сокал.

## Хачу

Каб я спяваў, што захацеў,
Пякельнай не пужаўся ночы,
І па вясковай мудраце
Ад нелюдзяў адводзіў вочы.

## Перад люстэркам

Я стаў, нібыта на праверку,
Крануў рукой, як ледзяша —
Адлюстраваліся ў люстэрку
Не толькі твар, але й душа.

Так заварожанае ранне
Азёрную люструе гладзь.
Каб хоць на міг
У люстраванні
Свой лёс убачыць
Ці ўгадаць...

## Пра паэтаў

Паэты ж у віры жывуць,
Таму пакутна паміраюць,
Калі зямная каламуць
Ім не дае аб зорках марыць.

А нам такое і няўцям,
Хапае нам жыцця зямнога.
Людзей стварыў, відаць,
Адам,
Паэтаў жа купіў у Бога.

Таму ім божая й цана,
Таму відней паэтам з неба,
Дзе праўда ў нас, а дзе мана,
Каму што на зямлі патрэбна.

Паэты пра святое дбаюць
І тым сябе не берагуць,
Таму іх сэрцы паміраюць,
А душы сярод нас жывуць.

## Апошняя просьба

Я хачу, каб пахавалі
Аднадумцы і сябры,
Каб мяне не прадавалі,
Кляўшыся на алтары.

І прыйшло людзей паболей
Спачуваць, а не глядзець,
Я тады б адчуў патолю,
Я табы б асіліў смерць.

І спакойна пагадзіўся
У сырой ляжаць зямлі
І ні з кім бы не сварыўся,
Хоць там розныя б былі...

Мы ўсе роўныя для Бога,
Як зярняты на сяўбе.
Не пакрыўдзіць ён нікога,
Нас узяўшы да сябе.

25.07.07.

***

Пытаюць часам: «Што не пішаш?
Мо страціў творчы свой імпэт?
Распальвай у духоўнай нішы
З іскрынкі полымя, паэт!

Калі не ты, дык хто ж сумее
Прыгожа напісаць пра шчасце?
Як жыць таму, хто толькі ўмее
Паменш рабіць, а больш украсці?

Хто сох ад тоўстых хрэстаматый,
Той з торбай крочыць па зямлі,
Хто быў рамантык, хто прагматык —
Такую й долю здабылі.

Абодва паднявольна скуты,
Агульны нібыта ствараюць рай.
Адзін больш дбае пра валюту,
Другі пра мову й родны край.

Маўчыш і болей сэрца скрышыш.
Мой верш — вось мой імунітэт,
Бо душы ў запаветнай нішы
Зратуе хоць крыху паэт.

**Маркота**

Багата не плач над труною,
А зрэдзь над магілай заплач,
Як будзеш сам-насам з сабою,
З пякельнай сваёю тугою,
Тады над магілай заплач.

Як стомішся ад адзіноты,
Заўсёды прыходзь на клады,
Ушчэнт адалее самота,
Душэўны адчай і журботы,
Заўсёды прыходзь на клады.

Бо свет той нікому нямілы,
На сонца ахвота зірнуць
Бо памяць жывым дзівасілам
Падыме з глыбокай магілы —
На сонца ахвота зірнуць.

8.10.2006

**На Радаўніцу**

Штогод на Радаўніцу крыж
Мне паўстае перад вачыма,
І вабіць на пагосце ціш —
Не скрыпне аніхто дзвярыма.

Прысніўся бацька зноўку мне,
Як «Чорны воран» свой спявае.
Даўно святла няма ў вакне.
І хата нема сустракае.

І здэцца кліча хтось з кладоў—
Душа тады пакутна ные,
Бо памяць жыцьме пра дзядоў,
Пакуль магілы іх жывыя.

Як пакаяльную віну,
Жалобу ў чарачку наліўшы,
Згадаю — слёзы праглыну,
Да крыжа сэрца прытуліўшы.

17.04.2007—28.04.2007

## Маленькая пакаяльная малітва

Лічыцьму сябе вінаватым,
Пакуль не даруе мне Бог,
Што любую маму і тату
Ад лішніх трывог не бярог.

Пішу пакаяльна замову,
Хоць ведаю ўсё загадзя —
Як трэба ласкавае слова
На схіле цяжкога жыцця.

Яно лепш за лекі загоіць
Душэўныя раны заўжды
І кропляй жывою натоліць
Надрыўныя лёсам гады.

Хоць позна маё пакаянне,
Ды каюся ім, як магу,
Душы адшукаўшы прыстанне,
Я лёсу спазнаўшы вагу.

Ды хоць мая й шчырая споведзь,
А цэнз не такі й дарагі.
Мо некалі Бог не адмовіць
І крышку адпусціць грахі.

20—21.10.2007

**Вяскоўцам маім**

Я еду кожны год туды,
Хоць часам нехта наракае,
Да роднай хаты, на клады,
Бо сэрцу міла ў родным краі.

Адплачу боль і адлюблю
Адзін за ўсіх аднавяскоўцаў,
Зямлю сваю прыгалублю,
Якую так спаганіў стронцый.

Аптымістычна не пішу,
Хоць веру шчыра ў адраджэнне,
Навек аддам сваю душу
Сваёй зямлі ў распараджэнне.

Хоць кропельку, на нейкі час
Загою раны — на імгненне.
Мой край дась сілаў у запас,
На дзесяць жыццяў блаславенене.

Каб я дажыў да той пары,
Да гэткіх радасных хвілінаў,
Каб вёдры бразнулі ў двары,
Тады б спакойна свет пакінуў.

21 ліпеня 2007

## Малінаўка

Жалобна кліча кнігаўка
З радзінных паплавоў.
Сталічная Малінаўка,
Мне хочацца дамоў.

Я на сваю зямельку
Без крылаў паімчу,
Спраду сваю кудзельку
І душу залячу.

У горадзе багата
Прывабаў і спакус,
Але ў нябёсах хата,
Што ў сэрцы землятрус.

Ужо не ступяць ножкі
Па дзедаўскай раллі,
І дома ўсе дарожкі
Травою заraслі.

Сталічная Малінаўка,
З табой зрадніўся я,
Ды ўвесну кліча кнігаўкай
Старonaчка мая.

## Позірк на сябе

Сціскае грудзі боль пякучы.
Бо лёс імкліва лічыць час.
Угледзеў я з жыццёвай кручы
Сябе і ў профіль, і ў анфас.

Я ўсё лятаў, лятаў — нябога —
У снах, у марах, у нябёсах,
Хацеў жа быць бліжэй да Бога.
Але ён даў мне ў рукі посах.

Іду ў жыццё з адкрытай ранай,
Пакуль йшчэ зорачка гарыць.
Няўжо і мне наканавана
Анёлаў з д’ябламі мірыць?!

Я — небязгрэшны й не пакутнік,
Але ж трывае ўсіх зямля.
Мой скарб — нязмераны трохкутнік:
Жыццё, Сусвет і ўласна «Я».

Ніколі я не зазнаюся,
Калі ўзлятаю над зямлёй
Бо ж у душы заўжды імкнуся
Да першай прыстані сваёй.

## Я — не апошні

Я — не апошні
і не першы,
Хто сэрцам бліжай да нябёс.
Чамусь не ўсе
складаюць вершы,
Не ўсе чытаюць іх да слёз.
Таму пішу больш
пры выпадку,
Як заганяю ў сэрца клін,
Аддаўшы талент
без астатку
І без спадзеўкі на ўспамін.
Хоць похапкам
разок адчуйце,
Як ладзіцца ў багоў імша,
На прысак
ціхенька падуйце —
Гарыць паэтава душа.

15—17.03.2008

**Няўзнак**

Няўзнак мінаюць юбілеі,
Нібы жыццё прыйшло няўзнак
Тых, хто не падаў на калені
Ні перад кім і аніяк.

Хто бараніў заўжды святое —
Радзіму, мову і зямлю,
І не махаў на ўсё рукою,
А кідаў зерне на раллю.

Каб спелі парасткі надзеі
І веры зелянела рунь,
Што не ўдаецца ліхадзеям
Крыж Еўфрасінні закрануць.

І хай хоць трошкі, але ўсцешна,
Што повен памяці плыве,
Не ўсе ўтравелі покуль сцежкі
І дух Купалавы жыве.

**Жонцы паэта**

А ты застанешся адна
Ва ўтульнай, абжытай кватэры
І кубак самоты да дна
Дап’еш без надзеі і веры.

А ён без надзеі і веры
Ў няведамы кінецца свет,
Бо цяжка чамусьці паверыць,’
Што трэба камусьці паэт.

Каму сёння трэба паэт,
Які ў паднябессі блукае
І д’яблаў падчас сілуэт
За воблік Анёла прымае?

Таму яго Бог і карае,
Што часта жыве ён не так.
Ён — воўк, ды з ваўчынае зграі
Ён выпаў, апошні дзівак.

Ды толькі такіх дзівакоў
У нас нараджаецца мала.
Мо менш пралівалася б кроў,
І так бы зямля не стагнала.
20.07.2007

## Ліпеньскім ранкам

Мядовы водар яблынь, сена
З маленства сэрца ахмяліў,
Таму так хочацца, напэўна,
Мне першы адкусіць наліў.

Чароўнай сілаю натоліць,
І я адчую больш паўней —
З зямлёю сэрца загамоніць,
А гэта мне за ўсё важней.

Хоць ставяць класіку не ў моду,
Што патураем прастаце —
Злаўлю губамі асалоду
На росным, ягадным кусце.

У гэтым слодычы вяршыня.
Спазнаў я гэта ўсёй душой.
Я нахілюся да вяргіні —
І ў вір пачуццяў з галавой.
20.07.2007

***

Я нават сны не ўтаю
перад табой :
нейк мне прыснілася,
нібы твая душа ў маю
навечна жыць
перасялілася.
Мне стала цяжка,
да знямогі,
нібы на споведзі,
не хлушу,
хачу сказаць
я штосьці строга,
спытаць, але сябе
не змушу,
прымаю госцю бездакорна —
жыццё маёй душы
мяняецца,
яна — шчаслівая —
пакорна ў тваю душу
перасяляецца...

**Ля абразоў**

Адбяры ў мяне, Божа магутны,
Думкі-мроі і роздумы-сны,
Не глядзі спачувальна-пакутна.
Можа, спраўдзяцца зрэшты яны?

Толькі ў мроях ратунак і згуба,
Толькі з імі ўзлятаў над зямлёй.
Памажы мне, спагадны і любы,
Каб са сцежкі не збочыў сваёй.

Я ж заўсёды ішоў напрасткі,
Хоць балюча калолася ў пяты,
Да цябе, як ідуць хадакі.
Ты на цэркаўцы кожнай распяты.

Што навечна мне даў — забірай,
Не ўсё разам аднак, а патроху,
Ды пакінь на зямлі маёй рай,
І я мужна пайду на галгофу.

## Мая вера

*Калі можаш, то не пішы*

Параіў нейк адзін размоўца.
Здаецца, шчыра і заўчасна.
Хоць Муза ашчаджае слоўцы,
Я без паэзіі — няшчасны.

Пішу пра жыта і раздолле,
Дзе цешу сэрца васількамі,
Шукаю ў казках я патолю
І размаўляю ў снах з багамі.

Бо веру Богу роднай хаты
І Богу аржанога хлеба,
Радзімы водарам багаты,
Я слаўлю маці, слаўлю неба.

Як верыць ветразь ветрахвалі,
Душа так верыць мове роднай.
Каб мову ў сэрца адабралі,
Дык я не верыў бы ніводнай.

**Белая завея...**

Завіруха, белая завея
Ахінае вэлюмам зямлю
А я цешу ўсё яшчэ надзею,
Што калісьці жураўля злаўлю.

Толькі жураўля, а не сініцу,
Дзіва мне займацца драбязой!
І натхнення забруіць крыніца
З майго сэрца шчыраю слязой.

Скалыхне душу ізноў імгненне —
Над зямлёю палятаю ў снах.
Там ад скрухі і тугі збавенне.
Я бяскрылы, але вольны птах.

Бо сваю планіду не сурочыў!
І хай недруг не дае руку,
Я таемнае малюся ночы
І зайздрошчу змалку жаўруку.

І душой ніколі не гавею,
Бо натхняе родная зямля.
Толькі белая даўно завея
Замятае скроні спакваля.

## Я не буду

Я не буду зусім назаляцца.
Адпусціце ў хваёвы гушчар,
Дайце з духам мне неяк сабрацца
У віры сваіх думаў і мар.

Нешта ёсць на зямлі ў нас такое,
Што не ўсім зразумець нам яго.
Падзялілі душу на пакоі —
І не знойдзеш куточка свайго.

Па счарнелым запозненым снезе
Крочыш, ледзь пераводзячы дых,
На бярозавым першым надрэзе
Сок праталінаў ловіш жывых..

Хоць ніяк не спатоліш і смагу,
Сэрца ўцешыць хваёвы гушчар.
Я на ўлонні радзінным прылягу —
І ў душы маёй сціхне пажар.

## **Ледзь не аптымістычныя радкі**

Я галавой аб дол не біўся,
І дух мой вольны не засмяг,
Калі на родны край зваліўся
Радыяцыйны саркафаг.

Я бедаваў і выў начамі,
Не бачыў неба, зор ад слёз
І затуліў зямлю б рукамі,
Дзе нарадзіўся і ўзрос.

А як згадаў аднойчы — Божа! —
Ушчэнт духоўны катаклізм,
Дык ныць зрабілася нягожа,
І я адпрэчыў песімізм.

А то разнюнькаемся разам
І ў прорву сторчма галавой,
І ўсё павырашым адразу,
Як крыж не станем несці свой.

І не даруюць нам нашчадкі,
Што самі здрадзілі сабе.
Заплешчуць запраданцы ў ладкі,
Што напіліся на сяўбе.

Гасподне слова сеяць трэба,
Каб душ зазелянела рунь,
Каб вусцішна было на неба
З крыжа магільнага зірнуць.
11.06.2006

**Абываценю**

Твой сэнс жыцця машына й дача
І пасмашней набіць вантробы,
І мэта нeяк з енкам-плачам
Успяць заморскія абновы?

Што ж, пніся, жылы рві, нябога.
Тут не ў пашане куркулі.
Няўжо, ты думаеш, у Бога
Два жыцці выклянчыш калі?

Ці чуў ты пра сівых індусаў,
Што мудрымі былі спакон?
Яны й для нас — для беларусаў —
Святы пакінулі закон.

Ты нарадзіўся й горка плакаў,
А ўсе ўсміхаліся вакол.
Ты плачам за жыццё падзякваў
Усім і гол быў, як сакол.

Зрабі жыццё сваім багаццем,
Каб некалі ў апошні час
І ты ўсміхаўся ў людна хаце,
А шчыра плакаў кожны з нас.

***

А ўсё ж пакуль я існую,
Калі калыша мары колас.
Я кросны зноўку асную —
На палатне пакіну голас.

Сатку я птушак першы крык,
Што к нам вяртаюцца здалёку.
Душу мне лечыць гэты зык,
І рвецца песня за аблокі.

Ляціць пагляд узнёслы ў неба.
Няўжо там блудзіць мой нябыт?
Жыццёвай сталася патрэбай
На годнасць мне здаваць іспыт.

## Стоены боль

Мой стоены боль ажывае,
Ледзь вочы кранаюць прастор
Майго непаўторнага краю,
Маіх акіянаў і гор.

У казках і песнях апетых,
Любімых, жаданых спакон.
Яны нараджалі паэтаў
Пад позіркам светлых ікон.

І мне, прыгаданы журбою,
Узнікнуў жалобны напеў.
Мы, мама, спявалі з табою,
Як колас пшанічны паспеў.

А сёння душа не спявае
У хойніцкай вёсцы радзіннай.
Ў квітнеючым некалі краі
Зрабілася дзіка й пустынна.

## Не сумеў, матуля, не паспеў

***Светлай памяці Мамы***

Не сумеў, матуля, не паспеў
Я тваю даслухаць калыханку,
Твой ні з чым непараўнальны спеў,
Што разбудзіць жаўрукоў уранку.

Я цябе з маленства шанаваў
І любіў нязнанаю любоўю,
Столькі слоў прачулых адшукаў,
Ды найлепшых так і не знайшоў я.

Зноўку сэрцам пішуцца радкі,
Акрапляючы слязьмі паперу.
Што твой голас сціхнуў навякі —
Доўга ў гэта, мама, не паверу.

Я цябе падтрымліваў — як мог,
Боль душы аднак суняць не здолеў,
Ды інакш распарадзіўся Бог.
Нашы жыцці — гэта божа воля.

Кожны з нас, як жменя той зямлі,
Што хавае тайну існавання.
Каемся, што грэшнымі былі
І да Бога йдзем са спадзяваннем.

## На бацькавай сялібе

Усё тут помніць маму з татам,
І дух маленства шчэ жыве,
Вяргіні абдымаюць хату,
Вітае скрыпам журавель.

І толькі тут душа складае
Радкі пра залатыя дні
І толькі тут адпачывае
Лепш ад дакучнай мітусні.

Такой мясціначкі прыгожай
Я не сустрэў нідзе яшчэ.
Спявае сэрца з ласкі божай,
А песня ручайком цячэ.

Якое гэта зрэшты шчасце
На сконе непадкупных дзён
Да межаў позіркам прыпасці,
Дзе не канчаецца жыццё.

## Пра шчасце

Нешта мінула, а штосьці засталося
Ў памяці сполахам летніх дзянніц.
Стукае восень, нязваная восень
Крыламі ў сэрца старых аканіц.

Нейкі нязведаны жаль і журбота
Ныць вымагаюць пакутна душу.
Шчасце маё, дзе ты блудзіш употай?
Ты адгукніся на кліч мой, прашу!

Шчасце маё адгукнулася рэхам,
Шэптам лістоты панылых бяроз.
Іскрамі зіхнуў трамвай і... паехаў,
Радасць юнацтва ў далеч павёз.

Неяк маркотна, і ў думках — пустэча,
Крочыш-ступаеш па зыбкім жыцці.
Гэткі кароткі наш век чалавечы,
Што не хапае да шчасця дайсці.

* * *

Мужчыны пішуць пра каханне –
Кахаць ім Бог наканаваў.
Хто з любай не сустрэў світання –
Пяшчоты дзіўнай не спазнаў.

Мужчыны пішуць пра каханне,
Чакаюць вечнае вясны.
Нам згадкі першага спаткання
Да скону саграваюць сны.

Мужчыны пішуць пра каханне –
Заўжды, спакон, з сівых вякоў,
Нібы замову-заклінанне
Да наймагутнейшых багоў.

Мужчыны пішуць пра каханне –
Душы святое пачуццё,
Каб не знікала чараванне,
Каб не скончалася жыццё.

*24-26 лютага 2006*

## Дзіця божае

Крочу да небакраю,
Ды не відаць яго.
Позірку не хапае –
Засумняваўся Бог.

Побач усім жывецца
Нібыта чынам чын.
Я штосьці ў паняверцы
Часам і без прычын.

І без надзей кружуся
Ціха ў блакітных снах,
Як над буслянкай бусел,
Дзе не радзіўся птах.

Бог пазірае ўсцешна
На дзівака свайго –
Хай пракладае сцежкі...
І мне ўсміхнуўся Бог.

## Праз заінелае вакно

Праз заінелае вакно
душэўнай сумнай адзіноты
гляджу, як снежань палатно
пяшчотна сцеле каля плоту.

Такі бялюсенькі сувой —
адвесці позірк немагчыма —
калісь раскатвала вясной
ля сажалкі адна жанчына.

І колькі радасці ў вачах
было ў руплівае майстрыцы,
а на агаленых грудзях
красы найбольш, чым у царыцы.

Я позірк не адвёў цнатлівы —
за шчырасць не судзіце строга —
крыху было мне сарамліва,
але ці сорам — што ад Бога?

**Ля вытокаў Гайны**

У засені алешніку густога
Гарэзуе крынічная бруя.
Прыціхнуў я, як перад лікам Бога,
Зачараваны песняй салаўя.

Ён навявае мілую пяшчоту.
Чаромха ахмяляе галаву,
І купінкі пасохлага чароту
Глядзяць на маладзенькую траву.

А вось і першая мая зязюля
Гукнула лета радасным ку-ку.
Як гэту вечную цнату люблю я
І Гайну — пакручастую раку.

Хай не рака яна, хутчэй рачулка,
Але з вадой крыштальнае красы.
Бруяць крынічкамі срабрыста-гулка
Паданняў векавыя галасы.

## Позірк у неба

Я там — у светлых высях — Богу
Аддам у дань сваю душу,
Хоць на зямлі зрабіў нямнога,
Я аб адным, Гасподзь, прашу:

Вазьмі, што добрае мне даў,
Кагосьці зноў надзеліш шчыра,
А ты не горшых пакараў!
Ляцяць надзеі ў вечны вырай.

І палячу ж у зарапад,
Дзе добра, ціха і маўкліва,
І толькі хвоевы пагляд
Кіўне ў дагонку мне тужлівва.

## Не кахайце паэтаў

Не кахайце ні за што паэтаў,
Не любіце іх нябесных сноў
Бо іх сэрцы сплецены з санетаў,
Бо іх душы звітыя з радкоў.

Імі правіць сіла незямная.
Іх пагляды — вечна ў вышыні,
А душа дачасна ў іх згарае.
Ім вякамі падаюцца дні.

У іх мроях тоіцца паўсвету,
Нечаканы іх душэўны стан.
Пакахайце хоць разок паэта —
Вечнага з апошніх магікан.

**Жанчыне**

У жанчын пра ўзрост не пытаюцца,
Бо гады іх відаць па змаршчынках,
А іх лёс у вачах адкрываецца –
Па вясёлых і сумных іскрынках.

Ды ці важны узрост для жанчыны?
Розны ён – як наяўнасць святая.
У сапраўднага мужа, мужчыны,
Дык жанчына заўжды маладая.

Не страшыся пражытых гадоў,
Іх мінула не так ўж ой многа.
Апроч мужа, дзяцей і сяброў,
Не прасі больш багацця ў Бога.

Хоць гады, як няспынная плынь,
На тваіх пуцявінах не бавяцца.
Ты іх, быццам хусціначку, скінь?
А пра ўзрост у жанчын не пытаюцца...

**Апоўначы**

Чамусьці цень застыў між намі,
Відаць, у тым мая віна.
Блукае прывідам начамі
Між намі немая вайна.

А я не сплю — адзін гуляю
Пад салаўіны звонкі свіст.
Гармонік ,здэцца, недзе грае…
Не, электронны гарманіст!

Такая ціш. І вечар росны
Душу натхняе і п’яніць.
Як вабіць водар меданосны!
А сэрцу хочацца любіць…

Не цень чужы застыў між намі,
А поўня глянула ў вакно.
Яна, як зводніца, начамі
Мне цешыць мроі ўсё адно.

## **Не забываецца**

*Жонцы*

Не забываецца такое —
Імгнення ўдосталь аднаго.
Мой лёс вагаецца паволі
На вагах позірку твайго.

Жыву хвілінамі натхнення,
Якое Бог узычыў мне.
Мы — двух планетаў сутыкненне,
Што вечнай тайнай ахіне.

Мы ж у сусвеце, як пылінкі,
Як сведкі змоўніцкіх начэй,
Дзе толькі нашыя хвілінкі
Схаваны ад чужых вачэй.

І гэтым цешымся употай,
І беражэм каштоўны міг.
На гэтым свеце — мы залёты,
Дзе ўсё залежыць ад дваіх.
06.12.2006

## Разбудзі мяне

Разбудзі мяне рана-раненька –
Павянчаем світанак з зарой
І з адное вясельнае жменькі
Пакаштуем чароўны напой.

Смагу сэрцаў здаволім паволі,
Асалоду пацешым даўжэй,
Бо няма саладзейшай паволі
І хвілін не знайсці даражэй.

***

Напішы хоць разок
хоць радок напішы,
Як гаючы гляток
для збалелай душы.
Напішы мне ў сны,
хоць у сны напішы,
Нібы споведзь віны,
прашапчы на імшы.
І згадайма той час
у ліпнёвай цішы:
Цемра хутала нас,
дзе раслі спарышы.
У душы скавышы –
напішы для душы,
Як грашылі ў цішы,
дзе раслі спарышы...

* * *

Слухаю дождж за вакном,
Кроплі палошчуць лісце.
Мой дэпрэсіўны сіндром
Ціха шукае выйсця.

Вузел заблытаных фраз
Я развязаў пакутна,
Зноў ачуняў ад абраз,
Толькі душы нячутна.

Думкі праносяцца ў такт
Меланхалічным кроплям.
З небам шукацьму кантакт –
Сэрца пакуль не лопле.

Сыпле жыццёвы пярун
Стрэлы мне на дарогу:
Мой ратавальны вяшчун
Раіць спаткацца з Богам.

**На Дзяды**

Хоць мала дрэваў пасадзіў,
Не даслужыўся і да чына,
Але я вершаў шмат сасніў,
Што зрэшты і не горш, магчыма.

Мо не ва ўсіх ёсць той гламур,
Каб змусіў словам захапляцца,
Ды столькі там душэўных бур,
Што кожны зможа закахацца.

Як я ў палескі родны край,
І так любіць яго да скону.
Мне сніцца рай — дубовы гай,
Ля хаты любай вербы, клёны.

Саўю ў вяночак смутак свой
І радасці знайду куточак.
Хоць сэрца і сцінае боль,
А заспяваць хачу разочак.

Бо тых пявунь няма даўно,
Што славілі спрадвеку вёску,
Ды толькі памяць ўсё адно
Нясе па свеце пагалоску.

02.10.2007

**У дзень Маці**

Ляціце дахаты, ляціце,
Бо знічкаю час прамільгне.
Душу дабрынёй загаіце,
Пакуль дзе ёсць чэрпаць яе.

Пакуль яшчэ мама чакае,
Адолеўшы скруху адна,
І песняй тугу праганяе,
І ў хаце святло дапазна.

У печы вуголле сатлее,
І ноч ахіне неўпрыкмет,
А мама пяшчотна з надзеяй
Засцеле стары табурэт.

Як люба ўсё гэта, як міла,
Як вабіць нязбыўны той час!
Нязнанай таемнаю сілай
Пакліча маленства ўсіх нас.

Прыедзем да мамы на госці –
Ніхто не прывеціць гасцей,
А згадкі чамусь на пагосце
Такія ўсплываюць часцей.

## Не па ўзросце

І мудрасць тут не бог якая,
Ды павучальна ўсё ж гучыць.
Калісьці гнеў людскі спаткае,
Калі двурушна будзеш жыць.

Калі нібыта і з усмешкай
Дзеньдобры шчыранька даеш,
А на падмеценую сцежку
Не меней шчыра наплюеш.

Я зразумеў, што крочыць госцем
Належыць па чужой вярсце
У гэтым і любым узросце,
Відаць, па мудрай прастаце...

***

Не папракай таго ў непакаянні,
Хто не прызнаў пакуль сваёй віны,
Хто пераблытаў адвячорак з раннем
І шчырасць не адрозніць ад маны.

І не судзі такіх ніколі строга,
Бо ўсё адно ім: пекла альбо рай.
Яны і так абдзеленыя Богам.
Ты моўчкі ім заўсёды спачувай.

Яно да кожнага прыходзіць з часам,
Бо ў пакаяння тэрмінаў няма.
Калісь ратоўнага сустрэне Спаса
Душа знямоглая нашчэнт сама.

**Выпадковаму знаёмцу**

— ешта маркоцішся, браце,
Топіш самоту ў віне,
Гора мо сталася ў хаце?
— Кінула жонка мяне...

Выбрала лёгкую волю,
Долю шукацьме сабе?
Хіба жаноцкую долю
Бог задарма раздае?

— то гэтак журышся, дружа,
Крышыш душу ў журбе?
Кінула жонка не мужа,
Кінула жонка сябе...

## Крокі

Жаўруковыя вёсны
і калядныя зімы
Дух натхнілі узнёслы
і падужылі крылы.
Неабсяжныя далі
таямнічай сінечы
У Сусвет пагукалі
і распросталі плечы.
Закаханыя вочы
і пяшчотныя рукі
Мне падоўжылі ночы
і імгненні ралукі.
А цнатлівы вусны
сэрца мне апякалі,
Позірк палкі і скрушны
мой навек счаравалі.
З апантанай душою
марыў я аб вышынях,
Ног не чуў пад сабою,
хоць ступаў па агні я.

***

Не кажы мне закаханых слоў,
І без іх цябе прыгалублю.
Мне так добра ад саснёных сноў,
Дзе твой позірк вуснамі лаўлю.

І складаю вершы да світання
Аб нязбыўнай першае сустрэчы.
Мо не варты я твайго кахання
І кажу заўсёды недарэчы?

Як не стане ў вершах бажаства,
Без яго нашчэнт я загібею,
Бо душы шукаю харства
І душою пакахаць умею.

Схмеліць кубак светлага віна —
Мой пагляд блукае па сусвету.
Прытулюся тварам да вакна,
І душа зноў зойдзецца санетам.

**Мроі**

*Сяргею Рабчуну*

Імкнецца сэрца да вышынь.
Блакітна-зваблівыя мроі
Дурманяць водарам вяргінь
І маладой, салодкай хвоі.

Душа — паўнюткая санетаў —
Запрагла праведных спакус,
І далучыўся да паэтаў
Зноў самавіты беларус.

Пакутна зведаў таямніцы
Да Музы пуцявін крутых
І зрэшты вырашыў напіцца
З крынічкі, што займае дых.

І паляцела да нябёс
Паэтава жывое слова,
Гасподзь яму спрыяў і лёс,
І матчына святая мова

**Мой крыж**

Ніколі картаю нябітай
Не звабяць Лондан і Парыж.
Мне дома ўладнаю планідай
Наканавана несці крыж.

Ішоў заўсёды напрасткі,
Ва ўсякі не ўступаў хаўрус,
Бо я няўрымслівы такі,
Бо я па роду — беларус!

І, што вы мне тут не кажыце,
Паміж азёр мая мяжа,
І, покуль ёсць валошкі ў жыце,
Не кіну я свайго крыжа.

**Мой кожны верш**

...Нялёгка тым, чыя душа
Жывое пакідае цела.
Мой кожны верш, нібы імша,
У мітусні, што звар’яцела

***

Мая душа застыла
Для дробязных уцех,
Затое болей мілы
Мне стаў дзіцячы смех.

Так вусцішна, ласкава,
На сэрцы спакайней.
Дзіцячыя забавы
Уражваюць мяне.

Святая непасрэднасць
І шчыры іх наіў
Мне дорацць міласэрнасць,
Натхняюць на парыў.

Пішу-складаю вершы
І прыбаўляю крок,
Ды зноў, нібы на першы,
Іду на свой урок.

***

Заўсёды ўсё нашу з сабою —
Каханне, веру,слодыч сноў,
Як паратунак, як патолю —
Да роднай спадчыны любоў.

Таму й багаты, і шчаслівы,
Таму й надзеі галублю,
Што край наш Богам
блаславімы,
Што нашу любіць ён зямлю.

І зноў душы супакаенне
Пакліча ў светлы рай мяне,
І з неба боскае натхненне
Салодкай хваляй ахіне.

**На вёсцы**

Якое гэта бажаство,
Калі ахмеліць красак водар,
Калі радзімы хараство
Душу тваю натхняе зроду.

Якая гэта асалода
Дыхнуць у лесе медуніцай,
Усцешыць грудзі прахалодай —
З крынічкі бруйнае напіцца.

Якое гэта зрэшты шчасце,
Калі пасля нялёгкіх сцежак
Замілавана змог прыпасці
Да роднай хаты, родных межаў.

І адчуваеш сэрцам зноў
Зямлі радзіннай прыцяжэнне,
Святую матчыну любоў —
На шлях жыццёвы блаславенне,

30.07.2007

**Люблю Лагойск**

Люблю Лагойск, калі ён сніць
Блакітны сон пад спелай поўняй,
Люблю, як парк яго шуміць
І шэпча Гайне штось чароўнай.

Яны разважна, па-старэчы
Апавядаюць наваколлю
Пра даўніну, расстанні, стрэчы...
Люблю Лагойск на золку болей!

Люблю з Паненскае гары
Абняць вачмі абсяг бясконцы.
Ўдыхнуць паветра у бары.
Адчуць, як елкі будзіць сонца.

Люблю, як чырванню заранак
Спачылую ўбярэ зямлю,
Як росны, ядраны світанак
Ўручае позву навадню.

Як залацеюць ярка знічкі,
І стол прыгожыць бохан жытны,
Люблю лагойскія крынічкі...
Люблю Лагойск наш старажытны!

## Палёты ў снах

Як гэта хораша і міла —
Лятаю я ў блакітных снах.
Хапае моцы небнай крылам,
Жыве ў душы маёй вясна.

Хоць мары і не ўсе збыліся,
Жыццё было на алтары,
Ды дзесьці ў недасяжнай высі
Мая йшчэ зорачка гарыць.

Да нас бясконцымі вякамі
Яе святло імкліва йдзе.
Я палятаю з ёй начамі,
Пакуль яна не прападзе.

Я на зямлю, як знічка, жвірам
Магільным лягу-упаду
Ды не ствару сабе куміра,
Бо ў іншую душу ўвайду.

**Пасля юбілею**

Хвалу ўзносяць дабрадзеі,
Натхняе віншавальны тост,
І рупіць мне да юбілею
Саткаць кашулю навырост.

І вышыць крыжыкам чырвоным
Узор на белым палатне,
Бо той узор вячыстым звонам
Нямала душ ускалыхне.

І скрушна часам і балесна...
Страйнеюць сталыя гады.
Душы становіцца зацесна,
Імкне душа да маладых.

Хоць шлях да вечнасці і блізкі,
Ды некалі глядзець назад.
Я край свой палюбіў з калыскі,
А больш люблю — у пяцьдзесят!

**Планіда**

Я гуляю з планідай ва-банк,
Да апошняга з ёй гуляю —
На рубель, на даляр або франк.
Я гуляю на ўсё, што маю.

Не палю за сабою масты —
Хтось яшчэ перайсці захоча
Свой абмежак на стрэл халасты,
Свой пачын і канец сі рочы.

Хто памкнецца за небавы схіл,
Дзе жыве забыццё і вечнасць,
Дзе надзеяў нестрачаных пыл
І дзе ў кожнага Шлях свой Млечны.

Ды планіда няўлоўны наш птах.
Гэта — згустак людскіх пакутаў.
Гэта —募раў нязлзейсненых прах
І пякельнага жалю скруты.

## Плынь

*Чалавек датуль жыве,*
*пакуль яго помняць…*

Дайшла амаль да семафора
Няўзгад жыццёвая вярста.
Ускосы стромкія агораў,
І недалёка да маста.

Хаця хапіла і завалаў,
Бо не мінеш іх, як ні кінь!
Задумліва раблю прывалы,
Каб запаволіць сваю плынь.

Падчас узгадваеш урокі,
Але ці злічыш зоркі ты?
Я забываю пра зарокі,
І ўслед не спальваю масты.

Бо разумею — не сыйду я
Дагэтуль з фінішнай прамой,
Пакуль спявацьмуць алілуя
Апошняй песняю маёй.

## Думкі ўночы

Начытаўшыся санетаў
З тонкіх і таўстых тамоў,
Зразумеў я, што паэты
Ўсе гасцююць у багоў.

І таму ім з ласкі божай
Выпадае ўгледзець шмат —
Дзе што гожа, што нягожа
І што ў лад, а што не ў лад.

Сняцца ім радкі начамі,
Ды не ўсякі светлы сон
Рвуцца мроі скакунамі,
Дзе тунэля кут відзён.

Ды адчай таму даймае,
Што адклікнулі ганца.
Маем тое, што ўжо маем —
Ад пачатку да канца.

Справа нават і не ў гэтым.
Кайданы ж успялі мне,
Волю рвуць з душы паэта...
Дзякуй Богу — толькі ў сне!

4.01 на 5.01 — 10.01.2008

**Пасля сустрэчы з Паэтам**

Я слова Майстра, як малітву, слухаў.
Ён нам саткаў гісторыі сувой.
Галоўнае для нас не ўпасці духам,
Не страціць продкаў памяці святой.

Адчай заўжды быў для паэта вораг,
Калі даймала смутак і туга.
Яшчэ не адсырэў натхнення порах,
І думкі не даводзяць да граха.

Паэты на зямлі не паміраюць.
У час малітвы на святой імшы
Іх песні на імгненне замаўкаюць,
Застаўшыся навечна ў душы.

## Мой конь вараны

Ад новых спатканняў і ростаняў новых
У сэрцы жыццё трапяткое бруіцца,
А мой вараны паабчэсваў падковы,
І рупіць каню на паўшляху спыніцца.

Ой коню, мой коню, ты верны мой дружа,
Мы ўсякія далі спазналі з табой,
Дзе вечная радасць, дзе вечная сцюжа,
Дзе сумна жывуць, дзе гуляюць з душой.

Пастой, не трасі ты калматаю грывай,
Я песню табе праспяваю адну
Пра казачны рай, што завецца радзімай,
Пра Богам надзеленую старану.

Пачуеш ты шчырую споведзь, мой коню,
І сілы надасць мой узрушаны сказ,
Памчы мяне ўслед за крывіцкай Пагоняй,
Што з тайны вякоў павыносіла нас.

Бо мы красамоўных начуліся цудаў,
Пагарды да мовы, праклён і прымус.
Я буду дудары́ць, шаптаць я не буду,
Што я з Белай Русі, што я — БЕЛАРУС!

***

Я шмат у стол пішу.
Шкада майго радка —
Як прадаю душу
За ўцеху з малатка.

Каму патрэбны плён
Праплаканых начэй?
Засушаны паслён
Становіцца гарчэй.

А скалыхнуць бы змог
Я акіян да дна,
Ды адвярнуўся Бог,
Бо ў душах сатана.

Бязвер'е ладзіць баль.
Людскі страшыць пагляд.
І хочацца, на жаль,
Аджыць сто год назад.

**Беларус**

Ад беларускае гаворкі,
Нібы ад поснае куцці,
Скрывіўся мой размоўца горка
І цыгарэтны дым пусціў.

Не горкі дым, а позірк горкі
Мяне муціў і засмуціў:
Да беларускае гаворкі
Яму расці яшчэ, расці...

Мне стала прыкра і няёмка
За суайчынніка свайго.
Відаць, бацькоўская старонка
Зусім чужая для яго.

Я мовіў як не дзве гадзіны
Пра край наш, аб яго жыцці
І зразумеў, што й да радзімы
Размоўцу трэба дарасці.

Ён слухаў і не чуў нічога
І рваўся ўсё скарэй пайсці,
А я адчуў, што і да Бога
Размоўцу трэба дарасці.

**Алесю Пісьмянкову**

Адкаласіў пшанічны колас
На шчодрай паэтычнай ніве.
Гучыць з нябёс тужлівы голас,
А сэрца крышаць успаміны.

Пайшоў раптоўна, назусім
Паэт-філосаф – Пісьмянкоў.
Ён Беларусь любіў і сніў –
Пабольш бы нам такіх сыноў...

А як сказаць ён мудра мог
У кожным вершы нечакана,
Бо гэткі талент дорыць Бог.
На жаль, і забірае рана.

Над крыжам памяці схілюся.
Які ў Паэта век і час?!
Пагасцяваў нібыта ў нас,
Пайшоў... І назаўжды вярнуўся...

***

Паўстала ясна, да драбніц
Ізноў у сне мне наша хата
Без даху штось, без аканіц,
Як з бездні глядзіць зацята.

Які ўжо год такое сніцца!
Радзінны бацькаўскі куток,
Табе з жыццёвай калясніцы
Рукой махаю я здалёк.

А калясніца мчыць да краю
Мяне ў віры хвілін і дзён,
Дзе цемра нібыта знікае,
Але куток мой не відзён.

Я часта дома ў снах начую
І бачу родную мяжу,
Я не прыму зямлю чужую,
Як і чужую мне душу.

## Несвяточнае шэсце

Зноў у нас несвяточнае шэсце,
Зноў хаўтуры і слёзы ў нас,
А канец ці настане нарэшце
Ім у горкі чарнобыльскі час?

Адзічаў мой маленства палетак.
Я гняздо болей там не саўю.
Адбірае касцявая дзетак,
Немаўлятачак — болеч маю.

Беларусі — пакутнай ахвярнай
Выпаў лёсу знявечаны знак.
Сняцца д'яблы жанчыне цяжарнай,
А анёлы не сняцца ніяк.

Мы ж адзін аднаго не шануем,
Дзікім поедам крышым-ядзім.
Хіба, думаеце, пашанцуе
Не патрапіць да Бога-суддзі?!

І няма мне ад думкі адбою:
Няўжо знікне зусім наш народ?
Задаю я пытанне такое
Які раз, які дзень, які год...

Ці ўратуюцца людзі ад згубы?
Смерць цікуе і слуг, і паноў...
Джаляць сэрца ахрыплыя трубы,
Плачуць меддзю жалобнаю зноў.

**У хойніцкай чарзе**

Паляшук і ў горы блазнуе.
Толькі скрушныя жарты, на жаль,
Хтосьці сёрбае пену піўную
І смакуе затоены жаль.

Не баіцца не ліха той стронцый.
Блазны сыплюцца ў крамнай чарзе.
У руках захрумсцелі чырвонцы —
На пражытак стае балазе.

«Радыяцыі страшна не піва,
Піў усё я і шчэ не зачах!» —
Крыкнуў дзядзька бяззубы гулліва,
І застыла жуда ў вачах.

**Крылатыя коні**

Палошча вятрыска збуялыя гоні,
Люляе ўспаміны задумлівы бор,
І мчаць мае згадкі — крылатыя коні —
У снах на палескі на родны прастор.

Бо там я пакінуў нязбыўныя мары —
Дадому ірвецца бясконца душа,
Дзе я у маленстве блукаў па імшарах,
Дзе ўецца да хаты старая шаша.

Хоць знаю — не будзе ніколі звароту,
Ў той час непаўторны, той час залаты,
А сэрца ўсё болей ад году да году
І ў снах, і ў згадках нясецца туды.

Ды гэта не проста хвіліны натхнення,
Калі закіпае паэтава кроў, —
Касмічнае з родным кутком прыцяжэнне
І боская сувязь паніклых вякоў.

03.11.2002 — 22.03.2008

**Такая ноч**

Такакя ноч, такія ў небе зоры,
Аж патанаюць вочы ў вышыні.
Плыву паглядам па нябесным моры,
Дзе вечна недасяжныя агні.

Так вабіць у Сусвет імчацца,
Што вырываецца душа з грудзей.
У бездань безнадзейна закахацца,
Дзе цень блукае зніклутых надзей.

Дзе неўтаймоўная жыве планіда,
Якую я угледзеў мімаходзь.
Яна для многіх бачная нібыта.—
Яе усім наканаваў Гасподзь.

Каб аддаваць усё на белым свеце
Ды так, каб нашы душы да сябе
Ўсявышні ўзяў, пакінуўшы у дзецях,
Як зерне на ўзаранае сяўбе.

**Тужу адвечна**

Тужу адвечна сэрцам шчыра
Пры развітанні з хатай роднай,
Як адлятае першы вырай,
Пры гуках музыкі жалобнай.

Як бачу высахлую рэчку
І здрадна высечаны сад.
Пачую цвыркуна ў запечку —
Гады вяртаюцца назад.

Начамі ў снах надрыўна плачу,
Што кут радзінны здратаваны.
Сваёй тугі не перайначу,
Не прытуплю ніколі раны.

У поле выйду на дасвецці
Складаю верш, нібу замову,
Бо найчароўнейшы ў свеце
Натхняе водар тут жнівовы.

Мой кут святы, мая калыска,
Мой човен мараў і здзяйсненняў,
Я пакланіўся д’яблу б нізка,
Каб ён табе паслаў збавенне.

Заўжды малюся пры спатканні
З табой, кляну жыццё-быццё
І не паверу да скanання,
Што лёс нарок тут забыццё.

**У выселенай вёсцы**

Крочу пацiху. Сцiнае пустэча.
Мэбляй цвiлой патыхае з вакон.
Ён не ўмiрае тут — дух чалавечы,
Ён тут навечна ўзяты ў палон.

Клiкае шыльда ў клуб «Калi ласка».
Сэрца знямела ад дзiкай цiшы.
Мёртвае царства — прыгадваю казку.
Людзi былi там, а тут — нi душы!

Хiба ў вершы пра ўсё так напiшаш?
Нехта дзiцячы згубiў паясок...
Зеўраюць з хатаў магiльныя нiшы.
Раптам угледзеў... каня i вазок...

Божа, я ўражаны аж пахiснуўся:
З хаты дзябёлы ступiў мужычок.
У скронях застукала: можа вярнуўся?
Нейкiя рэчы на воз павалок.

Я назiраў, прыпынiўшыся трошку.
Дзядзька здалёку не ўбачыў мяне.
Мне падалося, нiбыта нябожку,
Ён распрануў у адкапанай труне.

Неяк прыплёўся дахаты змарнелы.
Позiркам любым сустрэла жытло.
Я пакiдаю з душою збалелай
Роднае — быццам навечна — сяло.

**У калядны вечар**

Міргае поўня вокам,
І дрэмлюць ліхтары.
Калядна ўсё навокал
На снежаньскім двары.

Такая спакайнеча
На поплаве пустым.
Напевы з хаты нечай
Чуваць на паўвярсты.

Аж сэрца замірае –
Счарованы стаіш,
Красою ахінае
Адбеленая ціш.

І пах марознай хвоі
Навее згадкі мне.
Імчацца ў далеч мроі
На белым скакуне.

*22-31 снежня 2008*

**Язмінны водар**

Язмінны водар летняй прахалодай
Натхніў мне песню светлую ў душы.
Радкі складаю з хмельнай асалодай
Счарована ў прытоенай цішы.

Лаўлю матывы сцішанае ночы –
Мелодыя ўсплывае пакрысе.
І патанае салаўіны пошчак
У ліпеньскай бурштынавай расе.

Расою дыхаю, світанкі мрою,
Лятаю ціхенька ў блакітных снах.
Мне змалку сцеле зорныя сувоі
Насустрач Млечны таямнічы шлях.

Да зораў вечна позіркам імкнуся,
Узняўшыся ў натхненні над зямлёй,
Звязаны сэрцам з мілай Беларуссю
- Адзінай, непаўторнаю маёй.

**Аб вечным**

Адрачэшся ад вечнага —
Зрыне ў бездну яно.
І хрысціцца ўжо нечага —
Спаса там не відно.

І крычы, хоць сарвіся,
Богам дадзеным не грашы.
Ты на вечнае адгукніся
Пры жывое душы.

Хай святая павіннасць
Будзе вечна наўме.
Ты не здзей дабрачыннасць,
Хоць яе зразумей.

Лёсам вытканы пояс
Апаяша блакітам.
Ёсць нябесная повязь
Паміж вечнасцю і нябытам.

***

Дачакаюся зрэшты ад тых пакаяння,
Каму верыў душою адданай спаўна,
І дасплю, як дзіця, хоць разочак да рання,
І не спудзіць мне светлыя сны сатана.

Успамінамі даўнімі сэрца суцешу,
Кіну позіркам ясным у небную сінь
Ды прайдуся малечымі сцежкамі пешшу,
Дзе хмяліў мяне водар зацвіўшых вяргінь.

І прабачу ўсім крыўды, дарую і здраду.
Гэта добра з любоўю грахі даравацъ.
Дай мне, Божа, багацця паболей — спагады,
Каб было мне што людзям заўжды раздаваць.

Гэта ж радасць, нязведаная асалода,
Што хоць кроплю камусь падарыў дабрыні.
Калі ў мараў наладзіцца з явамі згода,
Дык душа не згарыць у пякельным агні.

17—18.11. 2005

***

Даруйце мне, што я не так сказаў,
Не тое, што пачуць, відаць, хацелі,
Што не збярог ад вострага ляза,
Што не дапраў пакінутай кудзелі.

Даруйце, што за вашы злосць і гнеў
Заўжды адводзіў сарамліва вочы,
Што песняў мала праспяваць паспеў
І ў сне пакутлівым прысніўся ноччу.

Даруйце, ёсць мая і ў тым віна,
Што дзеля вас я здраджваў душою.
Я за грахі не заплаціў спаўна
І пакідаю шанец за сабою.

Раблю я гэта не для ўгод і ўцех —
Сваё вам дараванне ахвярую.
Даруйце зрэшты мой апошні грэх,
Што ўсё самазабыўна вам дарую.

9.06.2007

****

Памрэм усе калісьці —
Хоць біцеся ў заклад,
Як абрывае лісце
Увосень лістапад.

Баімся азірнуцца,
Каб палічыць грахі,
Ды з лёсам размінуцца
Не выпадзе такі.

Важней жыццёвы вынік
Быў для мяне заўжды,
Бо кінулі ўжо выклік
Няўмольныя гады.

03- 07 — 28.07.2006

***

Каб замаліць грахі усе —
Жыцця падчас недастаткова,
Хоць над парогам і падкова,
І бусел бачны на страсе.

Са сталай вышыні гадоў
Такое зрэдку зразумееш,
Што і заплачаш, і знямееш,
І просіш літасці ў багоў.

За крыўду мрояў маладых
Ніколі не адказваў здрадай,
Бо з дараваннем і спагадай
Душа заручана заўжды.

Вянчае сталы небасхіл
Спрадвеку з норавам планіда.
Яна спагадная нібыта,
Бо зычыць для натхнення сіл.

**Зайздросніку**

Я цябе ніколі не зняважыў,
Твае боты, здэцца, не знасіў
І душу тваю не пэцнуў сажай,
Дык чаму ж ты позіркам ясі?

Аглядаеш увесь час спадылба,
Аж нервова ходзяць жаўлакі.
Калі б княжыў, то б паслаў на дыбу.
Ну хіба ж ты праведны такі?

Так нясеш сябе, нібы анёлак.
Быццам сам ніколі не зграшыў.
Ты запар супакаяльных зёлак
Для сваёй знявечанай душы.

Пакаянна ты калісьці вохнеш,
Не паскупішся на божы храм.
Мо ж рука твая ўжо не адсохне,
Калі я табе сваю падам?

**Кропля адкрыцця**

Не буду на лёс наракаць я ніколі —
Багацця удосталь узычыў мне лёс,
Бо даляў для мараў хапае даволі
І тайнаў загадкавых. сініх нябёс.

І мары ў блакітным купаюцца моры..
Хіба мне для шчасця чаго не стае?
Для ўзлёту натхнёнага столькі прастору,
А ў скрусе радзіма мне сіл надае

І людзі вакол. Ужо з рознымі стрэўся...
Ад здрады — было — замярзаў я зусім
Часцей дабрынёю і шчырасцю грэўся,
Дзяліўся спагадай і сэрцам сваім.

Дабра мне жадалі — я тым жа аддзячваў,
Сяброў больш сапраўдных, чым ворагаў меў.
Што лепшае ёсць, ад людзей больш пабачыў,
Што горшае ёсць, ад людзей зразумеў.

## Сэрцам думаю па-беларуску

*Адчуй сябе вольным*
*і будзеш шчаслівым.*
*Васіль Быкаў*

Я сэрцам думаю
па-беларуску,
У снах малюю,
хоць і не мастак.
З маленства неба
вабіла спакусна
Мяне і доўгі
за сялом бальшак.
А пець хачу
на поўненькія грудзі,
І песні тыя,
што люблю спакон,
А жыць з душою
вольнаю, як людзі,
А не з душой,
узятаю ў палон.
І не прашу я
ў Госпада багацця,
Малюся, каб я
духам не аслаб,
Бо горшай кары
не знайсці й напасця,
Калі пасяліцца
ў сэрцы раб.

***

Душа заціснута ў кулак,
Але не ў свой цярпліва-родны.
Усё жыццё паставіць знак
На ёй імкнецца хтось звыродны.

Я ж не міруся — небарака,
Бо хлусны не цярплю прысуд,
Служыць не буду, як сабака,
Хоць і адзеты у сурдут.

І пазіраць заўжды з аблізам,
Пакуль тамтэйшы гаспадар
Мне костку з недаетай місы
Пад ногі кіне, нібы дар...

Я да ўсяго дазнаўся сам.
Хаця і грэшны перад Богам.
Але свайго я не аддам
І не вазьму сабе чужога.

***

Ды не скачы ты зрэшты болей
Уласнай галавы вышэй,
Даўно ўжо вызначана доля —
Тапчыся на сваёй мяжэ.

Змірыся з тым, што трохі маеш,
Да дзірак данасі штаны,
А то заўчасна закапаеш
Сябе на радасць сатаны.

Збяруцца на хаўтуры юды
Не спачуваць, а паглядзець.
Бяда, што ў нас амаль усюды
Забавай стала нават смерць.

## **Калі**

Калі ў чалавека чагось не хапае,
Дык ён спакваля да ўсяго прывыкае,
Калі ён трывае і больш не шукае,
Дык мае заўжды толькі тое, што мае.

*14 сакавіка 2009*

***

Даруй мне, Божа, за грахі,
Што не малюся покуль раннем.
Ты ў нас да болю не глухі,
Таму павер у пакаянне.

Выратавальны мой Анёл,
Сыдзі на міг ка мне з нябёсаў,
Здымі з душы маёй праклён,
Бо па вуголлі крочу босым.

Я дрэнна жыў, бо мала спаў
Пад небам на лугах мурожных
І менш даваў, а болей браў
Спагады ў блізкіх, падарожных.

І мэту боскага жыцця
Я зразумеў даволі позна.
Таму глядзіць святы Суддзя
З іконы на мяне пагрозна.

***

Не адыйшоў я у нябыт,
Не паляцелі мары ў вырай
Мяне гняце абрыдлы быт,
Дзе ўсё надумана, няшчыра.

Калі назойліва плятуць
Адны і тыя ж антымоніі.
Ды не магу я ў дудку дуць,
Калі аркестр ужо ў агоніі.

Душу паэта не чапайце.
Я вершы сповядна пішу.
Калі зачэпіце, дык знайце:
Я словам вас заваражу.

Каб прычыталі вы хоць раз
Мой зразумелі боль і смутак.
Лічу сваім багаццем час.
Жыццё мяняю на пакуты.

Бо так няшмат зрабіў яшчэ,
А лепшае ужо прыжыта.
Мне боль Палесся сны пячэ,
І здэцца, што не жыў нібыта.

**Здані**

Пачварныя мрояцца здані,
Ледзь сон замільгае ўваччу.
Мне Біблія стала ў пашане.
Я веру знайсці ў ёй хачу.

Не трэба мне светлага раю
І манны нябеснай не трэба.
Мо ў Бібліі я прачытаю,
Што ў нас ад зямлі, што ад неба.

Я, прывідам змалку ахмелены,
Багам кабінетным маліўся
І верыў, што шчасцем надзелены,
Ды толькі, на жаль, памыліўся.

Яны ж пры жыцці раявалі
І дбалі пра княжны свой род.
Так раем насназабаўлялі,
Што мовы адрокся народ.

Трывожыць узніклая драма,
Што душы ў нас павысыхалі.
Дваран развялося нямала,
Але без дваранскай маралі.

**На магіле Янкі Купалы**

Колькі цярпелі мы кпінаў і здзекаў!
Нават пра род свой забыць вымушалі,
Дзікай ускраінай лічылі спрадвеку—
Ні перад кім на калені не сталі!

Мы — беларусы, бо з верай у сэрцы,
І не без спадкаў якаясь народнасць!
Мы — беларусы, а не іншаверцы,
Спадчыну маем і мову, і годнасць.

З Крычава, Воршы, Пастаў і Калінкавіч
Сорамна нацыяй іншым назваццa
Гора нам, гора, Іван Дамінікавіч,
Хочуць тутэйшымі ўсе заставацца!

**Плач сэрца**

Змятаюць цэзіевы пыл
З дарог палескіх ветрагоны
І з хат — пакінутых магіл
Нямой, адчужанае зоны.

Тут закапаныя заўчасна
Маленства любага гады.
Асірацелы і няшчасны
Заўсёды еду я сюды.

Пяшчотна ў скрусе прытулюся
Да незачыненых дзвярэй.
Нікога. Толькі чорны бусел
Клякоча дзюбаю гучней.

Маўчаць зажурана падворкі.
Міжволі хрысціцца рука.
Палын расце тут горкі-горкі
З канца таго красавіка.

***

Цярпенне рабскае,
                                   цярпенне боскае,
жылі мы з вераю
                                   спакон ахвярныя,
паперы складвалі
                                   мужчыны рослыя,
карчы варочалі
                                   жанкі цяжарныя.
Кляліся вернікі,
                                   з душой маліліся
тамтэйшым і
                                   тутэйшым ідалам,
ды зрэшты так і
                                   не узняліся мы
вышэй крыжоў сваіх
                                   і спінаў быдлавых.

## Неспадзяваныя сны

Узніклі негадана сны.
Прымроіў жудасных пачвараў
Агідна гікалі яны,
Размаляваўшы сажай твары.

Мо не зірнуў бы, не глядзеў,
Ды назаляліся відочна.
У сне падумаў: быць бядзе!
І аказалася — сурочна.

Не давяраў дагэтуль снам,
Пакуль не сталіся наяве,
Бо я спаткаўся з д'яблам сам
У чалавечае праяве.

Не гікаў ён, не шчэрыў твар,
А толькі еў мяне вачыма.
Адчайны ж у душы пажар
Было сцярпець мне немагчыма.

Чакаў зларадна той, што я
Адказвацьму шалёнай злосцю.
Душа знявечана твая.
Ад Бога маеш ты хоць штосьці?

Але і знаку не падаў
Я выпадковаму прыблудзе
І дзень з усмешкі свой пачаў,
А усміхнуўся добрым людзям.

26.11. 2005—27.11. 2005

**Аднадумцам**

Наш час пакуль што не настаў,
І, калі хопіць моцы й волі,
Спадзе нам светлы знак Хрыста,
Што дасць душы крыху спатолі.

Адтуль — з сівых глыбінь вякоў —
Прарос наш пракаветны колас.
Наш час пакуль не надыйшоў,
Не ўсе пакуль пачулі голас.

Патрэбна болей дух будзіць,
Хоць шлях у заўтра і няблізкі,
Каб звацца вольнымі людзьмі
Карцела з матчынай калыскі.

## Што ж ты, за Беларусь змагар

Што ж ты, за Беларусь змагар,
Цікуеш-сыкаеш з-пад лаўкі?
А хто ж устане пад штандар?
Хапугі, трутні, абівалкі?

Пляваць на суверэнітэт,
На нас усіх яны хацелі.
Яны далей не бачаць свет,
Чым ад кішэні да пасцелі.

А ты стаіўся у чаканні
Ды ўсё баішся укусіць:
«А раптам злодзей той са званнем,
А раптам прыйдзецца прасіць?

А то глядзі, не дай ты Божа,
Ды не за тое я ўкушу...».
Двурушнік! Здрадна і нягожа
Гвалтуеш ты сваю душу.

Хаця... ці ёсць ў цябе яна?
Такой душы не носіць цела.
Яна, як злая даўніна,
Нашчэнт у пекле ўжо сатлела.

**Каласкі**

Не распараджаемся лёсам,
Нібыта ў былыя часы,
На жніўныя крочым пакосы
Па сталінскія каласы.

На пожні стамлёна прысяду,
Аберуч схаплю галаву:
Калі дачакаюся ладу,
Па-людску калі зажыву?

Збіраем пустое калоссе,
Каб толькі падняць ураджай,
А сэрца адчайна галосіць
За Богам пакрыўджаны край.

Так дзеткам на полі спякотна.
У торбы кладуць каласкі,
Мне сэрца кальнула маркотай.
Дакуль сцягваць ім паяскі?

20.08. 2005.

***

Купала, Пімен, Танк і Ніл
Стаялі і стаяцьмуць kроўна
За мову нашу да магіл,
А нам дык быццам усё роўна.

Каб не адстаць ад талакі,
Зялёныя зрываем гронкі:
Чужыя словы і радкі
Мы валам валім на старонкі.

Маўляў, законнае двухмоўе.
А як гаворыць наш народ?
Прычасце блытаюць з прыслоўем.
Не мова стала, а звырод!

І пішуць замест блытаць «путаць».
Трасянка лаянцы ўпрытык.
Ад моўных выкрутасаў муціць,
І адрываецца язык.

Хацеў, хачу я і хацецьму
Па-беларуску гаманіць,
Каб не забылі мову дзеці,
Хацелі ў родным краі жыць

І як бы мне не пагражалі,
Ніколі не спяваў наўціш.
Мне прашчуры наканавалі
Панесці Еўрасінні крыж.

## Памяці Васіля Быкава

Над Беларуссю смутак, боль і скруха:
Пакінуў нас вялікі чалавек.
Заўсёды сэрцам беларусаў слухаў,
Праславіў нашу нацыю навек.

Ніхто такое праўды не напіша,
Так нашы душы не загоіць словам,
Жалобу нашу доўга не суцішым –
Асірацела матчыная мова.

Асірацела нашая Радзіма –
Апостала мы страцілі свайго,
Бо Быкаў быў такі у нас адзіны.
Не верыць сэрца, што няма яго.

Малюся Імені і Памяці малюся.
Святым узняўся ён над роднаю зямлёй,
Бо зведаў шчасце жыць для Беларусі
І ў Белай Русі спачываць сваёй.

**Змагарам за роднае слова**

Паспеў чаканы ўрэшце час,
Нібы гаротны жытні колас.
І смела можа кожны з нас
Пра мовы лёс сказаць уголас.

Што з ёю, роднаю, было,
Хай знаюць праўду дзеці, ўнукі.
Пакуль праменіцца святло,
Згадаем здзекі і прынукі.

Народ патрэбна ратаваць
І не даваць няверцам спуску.
Куды цяжэй — не бедаваць,
А размаўляць па-беларуску.

**Думка ўголас**

Паэзію заўжды магчыма ўбачыць
І на зямлі, і ў неабсяжнай высі.
Над вершам і пакутуюць і плачуць
Усе, што да яго не ўзняліся.

Няшчасны, хто душу сваю тыраніць —
Шукае мудрагелістыя сказы.
Сапраўдны верш загоіць і параніць.
Сапраўдны верш не пішуць па заказу.

Бо шчырыя, прачуленыя вершы
Нярэдка нашаптаны толькі Богам.
Калі твой верш апошні, нібы першы,
Дык на Парнас пракладзена дарога.

## Купала ў сэрцы маім

З маленства я ў матчыну мову ўлюблёны.
Яна мяне казкамі зачаравала.
Я роднаму слову вучыўся ў Купалы.
Ён геніяў нашых вянчае імёны.

Зямлі беларускай аддаены бясконца,
Ён славіў лясы, сенажаці і гоні
І верыў, што сонца загляне ў ваконца
Пад знакам забытай крывіцкай Пагоні.

Па белым абсягу са сцежкай крывавай
Праносіцца мрояў купалавых шэсце.
Мы станем народам з сусветнаю славай,
Людзьмі станем існымі звацца нарэшце.

Жыве Беларусь і адродзіцца мова,
Паўстаўшы знявечанаю з забыцця.
Прарочыя збудуцца некалі словы,
І зноў залунае спрадвечны наш сцяг.

## Да 125-годдзя Купалы і Коласа

Мы — продкі ўсе славутага Купалы,
І ёсць каму Радзіму зберагчы,
Ды годнасці чамусьці не ставала,
Інакш галовы не сяклі б мячы.

Сыдзіце вы хоць на імгненне з неба,
«Паўстаньце грамадою!» — кіньце кліч.
Купала, Колас, вы так сёння трэба,
Як вернікам выратавальны Зніч.

У нас растуць дастойныя нашчадкі,
Былых аднак апосталаў няма.
Хоць і не плешчам загадзя у ладкі,
Ды рабскага не збавімся ярма.

Арліныя нібыта маем крылы,
А сэрцы вераб'іныя трымцяць,
І ў большасці ад роду да магілы
Калені рабалепныя дрыжаць.

Памалу дагібаем так у скрусе.
За што ты, Божа, гэтак пакараў?
Што станецца з маёю Беларуссяй,
Калі наблізіцца адпеўная пара?

## Жыве ў Бяларучах Купала

Жыве ў Бяларучах Купала,
Душа Купалы будзіць нас.
Нязгаснай зоркаю зазьзяла,
Каб веры промень не пагас.

Тут Беларусь адвеку вызнаў
І далучыўся да пяра,
Бо хвоі ля пясчаных выспаў
Люлялі мроі песьняра.

У бліках залатога сонца
Прачулых мараў сыпеў пагляд,
Каб воля глянула ў ваконца
І заквітнеў наш край, як сад.

Каб мову матчыну ад Бога,
Як памяць продкаў берaглі,
Ды безнадзейная аблога
Ня знала нашае зямлі.

Імя Купалы ведаць мала —
Не забывайма кліч яго.
Жыве ў Бяларучах Купала,
Нібыта дух святых багоў.

## Чатырохрадкоўі

***

У адных не хапае розуму,
А ў іншых бракуе мудрасці.
І таму ўсе ідуць па-рознаму
Да звычайнай жыццёвай сутнасці.

***

Хтось увойдзе ў вертыкаль,
Хтосьці ж у гісторыю,
Толькі ў розныя, на жаль,
Цэнзаў катэгорыі.

***

Паэты тады нараджаюцца,
Як іх пачынаюць чытаць.
Калі ад іх вершаў жагнаюцца,
Паэтам пара паміраць.

***

Адзін заўсёды так пісаў,
Каб жыць багата і дарэчна.
Другі пра гэта меней дбаў,
Затое жыць ён будзе вечна.

***

І мудрасці шмат меў і хітрасці многа,
Ды ўся рэч у тым, што ён не зразумеў,
Што хітрасць — ад д’ябла,
А мудрасць — ад Бога.

***

Калісь захапляўся я вельмі
нянашымі словамі,
Ды мовы па-людску
не ведаў зусім я ніводнай,
А сёння мой розум сябруе
з замежнымі мовамі,
А сэрца сябруе з адзінаю —
моваю роднай.

***

Як рады, што ідуць нязвана
Сябры і гояць мне душу,
Жыву натхнёна і жадана
І перад Богам не грашу.

Я задыхаюся ў знямозе
Ад слоў няшчырых і маны
І рады, калі мне здалося,
Што побач злоснікі адны.

Нібы на споведзі я ўкленчу
Ля абразоў усіх святых,
Трываю кпіны і не енчу
Заўжды ад позіркаў пустых.

Бярыце ўсё, усё бярыце
Апроч свабоды, вас малю,
Пакіньце васількі мне ў жыце,
Пакіньце веру і зямлю.

**Я маю ўсё, чаго я варты**

Мяне сумленне не грызе —
Я не тулю апошні колас,
А білі часта балазе
За праўду, сказаную ўголас.

Сяброў любіў я і цаніў,
І верыў ім самааддана,
Што солі мне яны ў агні
Не сыпануць на болі-раны.

Мяне няўвага не сагне.
Абрыдзеў я — не заўважайце.
Абразіць можаце мяне,
Але святога не чапайце.

## Я веру

Мяне трывожыць кані плач,
І салаўя вясёліць спеў.
Я веру ў лёс, хоць ты заплач,
У талент існы,
Боль і гнеў.

Я веру ў геній дабрыні,
Жыву, сяброую на даверы.
Я веру ў зорку чысціні...
Бо як жа можна
Жыць без веры!?

## Боль зямлі маёй

## Паэма

— Эге, унучак, расцягнулі і ў нас, у Губарэвічах, царкву, па паленцу, па дошчачцы, знаку дайжа не асталося…
*З аповяду нябожчыцы бабулі Аксінні*

***

*Хойнікі, Хойнікі…*
*Вольхі ды хвойнікі.*
*Купы балотныя,*
*Лёсы гаротныя,*
*Зыбкія гаці,*
*Крык немаўляці,*
*Рукі руплівыя,*
*Песні тужлівыя,*
*Хаты, адрыны,*
*Гуд камарыны,*
*Плуг, серп і поле —*
*Вось і ўся доля.*

— 1 —

Такіх не бачыў ты лясоў,
Хоць будзь за краем свету,
Не стрэнеш гэтакіх дубоў
І хвой — упэўнены я ў гэтым.

Бывала, ў даўнія часы
Заблудзіць нехта ў лесе:
Лясун варожыць галасы,
І шэпча тайнамі Палессе.

Сівой цнатлівасцю балот
Наш край прывабіў слаўны,
Цнатлівым сонца быў усход
І людзі з верай праваслаўнай.

Жылі гаротна тут спакон,
Кавалак хлеба здабывалі,
Не выракаліся ікон
І галасілі, і спявалі...

І чарку бралі ж у маркоце,
За долю Бога не клялі,
Касілі, стоячы ў балоце,
У працы шчырымі былі.

Спраўлялі годнасна хрысціны,
Канца вяселлям не было,
Былі нябожчыкам мярліны,
І шчасце вольнае прыйшло.

— 2 —

Настаў нарэшце лепшы час —
Паноў прагналі мы з маёнткаў.
« За хлеб рабілі і за квас,
Жылі ўсе з верай ў завядзёнку,

Што так жылі спакон дзяды,
І нам не бачыць светлай долі.
Пакосы, поле і клады —
І больш няма сцяжыны вольнай.

Усё зраўнуем, быццам пляц,
Каб жыць у злагадзе-дастатку,
Збудуем кожнаму палац —
Хаціны знішчым без астатку.

І не бяры да сэрца жаль,
Далоў царкву і забабоны!
Рэвалюцыйная мараль...
Рэвалюцыйныя законы...

«Руйнуй палацы іх і храмы,
Не засталося каб і знаку!» —
Крычаў нябожчык Лесь Адамаў,

Мясцовы зух і забіяка.

І так вось цэркаўкі ламалі
І засявалі цвінтары,
Ды прыгажэй не збудавалі,
І ў душах зніклі светары.

— 3 —

Руплівасць нам не пазычаць!
Зямелька нам радзіла шчыра,
І берагла нас божа маць,
І не цураўся першы вырай.

Мой прадзед быў не бедняком —
Зямля была і дзеду ў спадчыну.
Завалаклі ў калгас сілком,
Як непітушчага у складчыну.

«Хіба я што ў каго украў!?» —
Стары Купрэй крыўдліва плакаў, —
Я ж змалку кроўна гараваў,
Цяпер ганяюць, як сабаку!

Нашто адрэзалі надзел?
Ці я стаяў супроць улады?
Прымаў бы ў мітынгах удзел
І даў бы сам зямельцы рады...»

Мой дзед рупліва працаваў,
І гэта дзеда ўратавала.
Ён супраць немцаў ваяваў —
Ва ўлад сумнення не паўстала.

Хоць крок ім быў да Калымы,
Бо за правіннасці каралі,
Сяляне дбалі пра дамы
Свае ж усе і.... кралі... кралі...

— 4 —

Усё маё, усё тут наша:
Лясы, палеткі і лугі,
Канюшні,пуні, коні, пашы,
Кувалды ў кузнях, абцугі...

А коні ў нас былі ў пашане.
Што паляшук быў без каня?
З балота сена не астанеш
І не заробіш працадня...

Пра коней нат спявалі песні,
Давалі лепшае каню,
Кармілі добра напрадвесні,
Старых спытай, калі маню!

І вось машынная навала
Прыйшла ў палескае сяло.
Такога дзіва не бывала,
Такога цуду не было!

Сама машына і накосіць,
І прывязе, і узарэ,
І есці, трасца ёй, не просіць,
Яе хвароба не бярэ.

Вядома, людзі вельмі рады
Былі машынам як не ўсе,
А коні страцілі спагаду
І змізарнелі пакрысе.

— 5 —

А я меў у маленстве шчасце,
Бо еў сапраўдныя гуркі
Ды без хімічнае напасці
І з лёгкай матчынай рукі

Расло цудоўна ўсё на дзіва,
І не было здароўя стратаў,

Хапала жыта нам на мліва
Без пестыцыдаў і нітратаў.

Мы ж у маленстве цэлым класам
Шукалі ў полі каларадаў,
А сёння гора ўсім калгасам,
Бо развялося ўдосталь гадаў.

А самалёт пачаў лятаць —
Махалі лётчыку гулліва,
Дык ён ва ўсю стаў паліваць
Нам грушы, яблыні і слівы.

Кружыў вясной, як воран кляты,
Каб не пладзіліся жукі.
І паліваў атрутай хаты,
Што дохлі пчолы, павукі...

Зямлю заўчасна марнавалі,
А ёй служыць яшчэ вякам!
Каб нашы продкі паўставалі,
Дык што б яны сказалі нам!?

— 6 —

Ды ў нас нічога не пыталі —
Няшчадна крэмзалі зямлю,
Палесся сэрца даставалі,
А заадно душу маю.

Спярша бяздумна асушалі,
Аж суха стала ў горле ў нас,
Пасля ў тых месцах арашалі...
Хто даў злачынны той заказ?

За багны людзі ўсе маўчалі.
Няхай дрыгва паслужыць нам,
Дык студні ушчэнт павысыхалі.
Якім маліцца нам багам?

Пачэзлі нашыя палеткі,

Пажоўклі травы-мурагі.
Дзе пасвіць нам кароў улетку?
Занылі людзі ад тугі.

Няхай праклён тых напаткае
За мукі роднае зямлі.
Яны зрабілі пекла з раю.
Няўжо мы грэшнымі былі?

Каб так сілком вужакі-трубы
Пілі кроў з родных каранёў
І давялі зямлю да згубы...
Ці акрыяе кут мой зноў?

— 7 —

Хаця рабілі анічога
На грэх спакон палешукі,
Але зграшылі, мусіць, Богу
Калісь ў вялікдзень землякі.

У дзень святы папрацавалі?
То мо за гэта божы гнеў?
І вырай песняй сустракалі.
Спаткала гора вас за спеў?

Ліхая немач, злыбяда
Усе панішчыла мясціны,
Бо лес атручаны, вада,
А вёскі — толькі ва ўспамінах.

І людзі нашыя ў выгнанні.
Чужая туліць іх зямля.
Бабуля просіць на скананні:
«На хату б глянуць хоць здаля!

Душа хай стоіцца ў спачыне,
На краскі б глянуць і траву,
Ты завязі дадому, сыне,
Я да дамоўкі дажыву...»

Не зычу ворагу ліхому
Чуць гэткіх жаласлівых слоў.
Я еду са слязьмі дадому,
Магчыма, і не ўдасца зноў.

— 8 —

Як кара божая з нябёс
Зацьміла сонечнае ранне.
Няўжо няміласцівы лёс
Наканаваў нам выміранне?

О Беларусь, мая гаротніца!
За што з нас гэткі люты здзек?
Была ты вечнаю нявольніцай.
Няўжо і будзеш ёй навек?

— 9 —

Цярпела злыбяду і золь
Зямля мая радзінная.
Дзяліў я быль, дзялю і боль
З пакутнаю Радзімаю.

## З М Е С Т